# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

27 верасня 2019 года №39 (1274) 18+

## Як справіць вяселле ў беларускім этнастылі



старонкі 18-19

Фота Сяргея ЛЕСКЕЦА.



ISSN 1991-7155
9 771991 715006 190039

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/




# У Маладзечне зачыняюць універмаг

**Маладзечанскі ўнівермаг – самая буйная дзяржаўная крама горада – зачыняецца ў канцы верасня. У 2020-м ён адзначыў бы 60-годдзе.**

На першым паверсе яшчэ вядуць гандаль, але крама пачынае пусцець – стэлажы прыбіраюць, тавары выносяць на склад.

**Другі паверх ужо практычна пусты.**

На трэцім праводзяць тэхнічныя работы, там знаходзяцца кабінеты адміністрацыі універмага.

Супрацоўніца крамы **Зоя Патар** адзначыла ў размове з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты», што пасля закрыцця ўнівермага ў Маладзечне больш нідзе нельга будзе купіць беларускія тавары. Патар таксама шкадуе, што работнікі не дачакаліся юбілейнага года.

Загадчыца ўнівермага **Юлія Руткоўская** адмовілася даваць каментары пра будучыню ўнівермага.

– У мяне журналісты некаторых выданняў пыталіся пра ўнівермаг і ў сваіх тэкстах зрабілі так, што гэта я вінаватая ў закрыцці ўнівермага.

**Але гэта не так – праз два дні я і сама буду без працы.**

Мяркуецца, што плошчы былога маладзечанскага ўнівермага перададуць арандатарам.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

---

# Кіно, паэзія, фота: у Маладзечне пройдуць тыдні Германіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Мерапрыемствы пройдуць у межах тыдняў Германіі ў Беларусі. Яны адбудуцца ад 24 верасня да 31 кастрычніка ў 12 гарадах Беларусі.**

### Нямое кіно з жывой музыкай

4 кастрычніка а 17 гадзіне ў Маладзечанскай школе мастацтваў па вуліцы Прытыцкага, 29 адбудзецца адкрыццё тыдняў Германіі ў Маладзечне.

Пройдзе спецыяльны паказ рэстаўраванага шэдэўра Фрыдрыха Вільгельма Мурнаў «Фауст» 1926 года. Гэта нямое кіно пройдзе ў суправаджэнні жывой музыкі ад Five-storey ensemble.

Музыку да фільма напісала беларуская арганістка і кампазітар **Вольга Падгайская**.

Уваход вольны.

### Фотамарафон

У нядзелю, 6 кастрычніка, ад 10 да 21 гадзіны пройдзе фотамарафон. Ахвотных чакаюць у аддзеле замежнай літаратуры бібліятэкі па Вялікім Гасцінцы, 121.

Удзельнічаць могуць усе ахвотныя аматары фота ад 14 гадоў.

### Літаратурны батл

На літаратурны батл запрашае Red Bar у аўторак, 15 кастрычніка. Пачатак а 16 гадзіне.

Імпрэза зацікавіць чытачоў, якія захапляюцца нямецкай паэзіяй і творчасцю. Уваход вольны.

### Вечар нямецкага кіно-1

Прагляд карціны «Зачётный препод» 2013 года пройдзе ў аддзеле замежнай літаратуры бібліятэкі. Мастацкі фільм будзе ісці на нямецкай мове з рускімі субтытрамі.

Сеанс пачнецца а 16 гадзіне ў сераду, 16 кастрычніка. Уваход вольны.

### Дарогамі нямецкіх казак

Чытачоў 10-11 гадоў запрашаюць у захапляльнае падарожжа па Германіі, каб сустрэцца з вядомымі героямі нямецкіх казак.

Сустрэча пачнецца а 15 гадзіне 22 кастрычніка ў аддзеле замежнай літаратуры бібліятэкі.

Уваход па запрашэнні.

### Вечар нямецкага кіно-2

Яшчэ адзін сеанс адбудзецца ў сераду, 23 кастрычніка. Пачатак а 16 гадзіне.

Для прагляду прапануюць сямейную карціну 2015 года «Выратаваць Рафі!».

Прагляд будзе ў аддзеле замежнай літаратуры бібліятэкі. Кіно будзе на нямецкай мове з рускімі субтытрамі. Уваход вольны.

### Круглы стол

Узаемны абмен інфармацыяй пра традыцыі і звычаі ў Беларусі і Германіі запланаваны на круглы стол на нямецкай мове «Нямецкія і беларускія традыцыі і звычаі».

Ён пачнецца а 15 гадзіне ў чацвер, 24 кастрычніка, у бібліятэцы.

Уваход па папярэдняй рэгістрацыі.

### Закрыццё і фотавыстава

Фінальнае мерапрыемства ў межах тыдняў Германіі пачнецца а 16 гадзіне ў пятніцу, 25 кастрычніка, у аддзеле літаратуры на замежных мовах.

**На ім падвядуць вынікі «Фотамарафона».**

Уваход на закрыццё – па запрашэнні.

**Паводле інфармацыі Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску.**


На старых могілках у Вілейцы.

# Адмянілі платны ўезд на могілкі

ВІЛЕЙКА

**Рашэнне №738 ад 28 чэрвеня «Аб арганізацыі дзейнасці, звязанай з пахаваннем памерлых», страціла сілу.**

Пра гэта «РГ» паведамілі ў Вілейскім райвыканкаме.

Нагадаем, што, паводле гэтага рашэння, каб на легкавых машынах заехаць на могілкі, трэба было заплаціць 2 рублі 55 капеек. А для ІП – 51 рубель.

Ад пачатку верасня актывісты пачалі збіраць подпісы за адмену платнага ўезду на могілкі. Назбіралі больш за паўтары тысячы подпісаў і перадалі іх у райвыканкам.

Таксама выказалі сваё пажаданне на сустрэчы з уладамі Вілейкі 17 верасня.

Там прадстаўнікі ўлады патлумачылі, што грошы патрэбныя на тое, каб падтрымліваць парадак на могілках. А таксама, каб плаціць заробак чалавеку, які будзе сачыць за гэтым парадкам.

Па словах прадстаўнікоў ЖКГ, прадпрымальнікі, якія добраўпарадкуюць пахаванні, пакідаюць пасля сябе шмат смецця. І ўсё ж рашэнне адмянілі.

У каментарах у сацсетках большасць карыстальнікаў дзякуюць за мужнасць актывістам і ўхваляюць рашэнне райвыканкама аб адмене.

Ёсць у каментарах і тыя, хто лічыць правільным платны ўезд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Абяцаюць падняць заробкі

МАЛАДЗЕЧНА

Урад устанавіў мэтавыя параметры паскоранага сацыяльна-эканамічнага развіцця асобных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак.

Змены павінны адбыцца згодна з пастановай Савета Міністраў №627 ад 18 верасня.

Сярод дзесяці раёнаў, дзе павінны вырасці заробкі, выручка ад рэалізацыі тавараў і паслуг, даходы мясцовага бюджэту, ёсць і Маладзечанскі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Беларусы атрымаюць SMS аб пачатку перапісу насельніцтва

Пра гэта паведаміла старшыня Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі **Іна Мядзведзева**.

Яна распавяла, што кожнаму грамадзяніну Беларусі прыйдзе SMS-апавяшчэнне. Таксама яна адзначыла, што ў SMS будзе паказана, хто можа перапісацца (гэта будзе вельмі кароткі), і будзе прапанаваны адрас інтэрнэт-перапісу. Гэта значыць, можна будзе з мабільнага тэлефона, напрыклад, адразу ўвайсці на сайт па перапісе праз інтэрнэт і практычна пачаць перапіс.

Перапіс насельніцтва пройдзе ў Беларусі ад 4 да 30 кастрычніка.

**Паводле БелТА.**

## Сям'я з Лебедзева стала лепшай у конкурсе «Уладар сяла»

МАЛАДЗЕЧНА

Сям'я **Пятра і Вольгі Мячкоўскіх** з аграгарадка Лебедзева перамагла ў абласным этапе рэспубліканскага сельскагаспадарчага праекта «Уладар сяла-2019».

Абласны этап праекта адбыўся ў Любані. За званне самай працавітай змагаліся 17 сем'яў з розных куткоў сталічнага рэгіёна.

Удзельнікі праявілі сваю гаспадарлівасць і гасціннасць у конкурсе візітных картак, секлі і складалі дровы, рабілі лавачкі, прайшлі спартыўную эстафету і інтэлектуальную віктарыну.

Лепшай стала сям'я Мячкоўскіх з Лебедзева. Пётр працуе анестэзіёлагам у клінічным раддзільным доме Мінскай вобласці, Вольга – эканамістам у банку. Удзел у конкурсах прымалі і сыны – **Радзівон**, **Гардзей** і **Герман**.

Пераможцы атрымалі ў падарунак мікрахвалёўку і кабанчыка. Сям'я таксама прадставіць сталічны рэгіён у фінале.

**Паводле БелТА.**

## Лукашэнка ўхваліў праекты пагадненняў па візах з ЕС

Беларусь завяршыла ўнутрыдзяржаўныя працэдуры па пагадненнях з Еўрапейскім саюзам аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі. Пра гэта 20 верасня паведаміў журналістам начальнік упраўлення інфармацыі і лічбавай дыпламатыі – прэс-сакратар МЗС **Анатоль Глаз**.

«Кіраўніком дзяржавы прынятае рашэнне, якое апублікаванае 20 верасня, аб падпісанні пагадненняў з Еўрапейскім саюзам па спрашчэнні выдачы віз і па рэадмісіі. Гэта няпростае рашэнне, прэзідэнт Беларусі прыняў яго, разумеючы высокую значнасць мабільнасці для грамадзян нашай краіны, і толькі пасля пільнай ацэнкі ўсіх магчымых рызык і наступстваў», – сказаў Анатоль Глаз.

Пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС прадугледжвае зніжэнне кошту «шэнгена» з 60 да 35 еўра і прыняцце рашэння аб выдачы візы ў тэрмін да 10 дзён (у выпадку дадатковай праверкі тэрмін можа павялічацца да 30 дзён).

Бакі планавалі падпісаць дакумент восенню. Паведамлялася, што гэта можа адбыцца падчас запланаванага візіту ў Беларусь вярхоўнага прадстаўніка Еўрапейскага саюза па замежных справах і палітыцы бяспекі **Федэрыкі Магерыні**.

**Паводле БелТА.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.09 руб. | 26.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.0580 | **2.0745** |
| Еўра | 2.2750 | **2.2809** |
| Злоты, 10 | 5.2400 | **5.2055** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1945 | **3.2306** |
| Грыўня, 100 | 8.3463 | **8.5622** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **18.09** | **25.09** |
| Еўра | 2.2000/2.2900 | **2.2550/2.2880** |
| Долар ЗША | 2.0300/2.0750 | **2.0550/2.0800** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 18.09 Цана, руб. | 25.09 Цана, руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **18,73** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,30 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,80 | **1,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,85** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Лісічкі, 500 мл | 2,00 | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 0,80 | **1,00** |
| Перац, 1 кг | 1,20 | **1,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **4,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **2,70** |
| Грушы, 1 кг | 3,40 | **3,20** |
| Дыня, 1 кг | 1,30 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Персік, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Хурма, 1 кг | – | **2,90** |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## 17-гадовы юнак збіў 27-гадовага знаёмага

**АШМЯНЫ**

Канфлікт адбыўся ўвечары 19 верасня.

Па дадзеных следства, маладыя людзі пасварыліся з-за таго, што 27-гадовы пацярпелы пашкодзіў аўтамабіль сябра падазраванага.

Падчас сваркі 17-гадовы падазраваны стукнуў пацярпелага па галаве, тулаве, руках і нагах. Той трапіў у бальніцу, паведамляюць у Следчым камітэце.

Следчыя завялі крымінальную справу. Падазраванага затрымалі. Раней хлопец не быў судзімы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Расіян выслалі з Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне ў поле зроку праваахоўных органаў грамадзяне Расіі патрапілі за сямейныя сваркі.

31-гадовы жыхар суседняй дзяржавы, які часова знаходзіўся ў Маладзечне, пасварыўся з сужыцельніцай. Пра гэта маладзечанка паведаміла на лінію «102».

Калі прыехала міліцыя, сужыцелі паспелі памірыцца.

Аднак праз некалькі гадзін жанчына зноў звярнулася ў міліцыю па дапамогу. На месца інцыдэнту зноў прыехалі міліцыянеры. Мужчыну затрымалі і даставілі ў РАУС.

На дзбашыра склалі адміністрацыйныя пратаколы за сямейныя скандалы, а таксама супраціў супрацоўніку міліцыі.

Пакараннем для яго стаў штраф, большы за 120 рублёў.

Раней фігурант прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за крадзеж. У рамках аперацыі «Нелегал-2019» прынялі рашэнне высылаць мужчыну з Беларусі добраахвотна. Прычым уязджаць у нашу краіну яму забаранілі на працягу шасці месяцаў.

Пазней гісторыя атрымала развіццё. Мужчына толькі зрабіў выгляд, што пакінуў межы краіны. Некаторы час ён хаваўся, а пазней вярнуўся дадому да сваёй сужыцельніцы.

Сустрэча скончылася скандалам і званком у міліцыю. Агрэсара затрымалі і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання. Цяпер расіяніна на радзіму адправяць прымусова.

Рашэнне аб добраахвотнай высылцы за мяжу з забаронай уезду на паўгода прынялі ў дачыненні да яшчэ аднаго грамадзяніна Расійскай Федэрацыі. 29-гадовы мужчына ў Маладзечна прыехаў у сакавіку.

Па наяўнай інфармацыі, на радзіме ён ухіляўся ад вайсковага абавязку. За час знаходжання на беларускай зямлі іншаземец не раз прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за распіванне спіртных напояў у грамадскіх месцах і сямейна-бытавы канфлікт, паведаміла прэс-служба Маладзечанскага РАУС.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага РАУС.**

## Маладзечанец атрымаў 18 гадоў за забойства

**МАЛАДЗЕЧНА**

Уступіў у законную сілу прысуд Мінскага абласнога суда ў дачыненні да 22-гадовага Р., які абвінавачваецца ў забойстве 64-гадовага пенсіянера з Маладзечна, паведамляе сайт Генеральнай пракуратуры.

Папярэдняе расследаванне па справе правodзіла пракуратура Маладзечанскага раёна.

Устанавілі, што п'яны Р. 24 снежня 2018 года, ноччу, па месцы жыхарства пацярпелага, стукнуў яго не менш за 34 разы нагамі, рукамі і малатком па галаве, тулаве, руках і нагах, душыў яго за шыю.

Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў, якія ўскладніліся развіццём траўматычнага шоку, пацярпелы памёр на месцы злачынства.

**Увесь працэс збіцця абвінавачаны зняў на камеру мабільнага тэлефона, каб паказаць сваёй дзяўчыне, якія ён надзейны абаронца. Пасля перадаў ёй відэафайлы па інтэрнэце для прагляду.**

Абвінавачаны ад 14 год 14 разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за правапарушэнні, звязаныя з ужываннем спіртных напояў, быў ізаляваны ў ЛПП.

З улікам пазіцыі дзяржаўнага абвінаваўцы Мінскі абласны суд на падставе п.6 ч.2 арт.139 Крымінальнага кодэкса прызначыў Р. пакаранне ў выглядзе 18 гадоў пазбаўлення свабоды з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

**Паводле Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь.**



Фота з сайта Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Следчыя праводзяць эксперымент.

# Смаргонка збіла сужыцеля. Мужчына ў коме

**СМАРГОНЬ**

**Пачалося ўсё з таго, што ў мясцовую бальніцу ў несвядомым стане даставілі мужчыну. Адразу ж інфармацыя ад медыкаў паступіла ў міліцыю.**

Першапачаткова міліцыянеры наведалі дом, дзе жыве пацярпелы, але сужыцельніца ўпэўнена заявіла, што напярэдадні мужчына недзе піў і адтуль ужо вярнуўся ў такім стане, а праз дзень зусім стала дрэнна.

Аднак смаргонскія міліцыянеры высветлілі, што жанчына сказала ім няпраўду. Яна таксама разам з сужыцелем піла ў гасцях у знаёмых.

Па дарозе дадому распачалася сварка. Жанчына паваліла на зямлю мужчыну, пасля чаго некалькі разоў ударыла яго нагой па галаве. У той вечар пацярпелы змог самастойна дабрацца дадому, але пасля яго стан здароўя моцна пагоршыўся. Позна ўвечары наступнага дня «хуткую дапамогу» мужчыну выклікаў сын падазраванай.

Па артыкуле «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання» ўзбудзілі крымінальную справу.

**Паводле УУС Гродна.**

## Работніц салона сувязі падазраюць у прысабечванні грошай

**МАЛАДЗЕЧНА ВІЛЕЙКА**

Фігуранткамі справы сталі 21-гадовая маладзечанка і 19-гадовая жыхарка Вілейкі. Дзяўчаты працавалі ў Маладзечне ў адным з салонаў мабільнай сувязі. Адна – старшым адміністратарам, другая – прадаўцом-кансультантам.

Міліцыянеры ўстанавілі, што ідэя незаконнага ўзбагачэння паўстала ў іх яшчэ ў канцы мінулага года.

Дзяўчаты набылі сабе мабільныя тэлефоны P20 Lite коштам больш за шэсцьсот рублёў кожная, афарміўшы ў салоне крэдытныя дагаворы. Аднак зусім хутка паклалі вока на смартфоны больш новыя – нагледзелі апошні iPhone. У камплекце з аксесуарамі цана аднаго такога гаджэта была каля дзвюх тысяч рублёў. Аформілі айфоны ў растэрміноўку.

У выніку ўтварыўся доўг. Каб не плаціць грошы, фігуранткі прыдумалі схему. У базе дадзеных адзначалі, што нібыта плацілі наяўнымі, хоць фактычна грошы ў касу не клалі. З часам у салоне ўтварылася нястача, якую дзяўчаты паспрабавалі схаваць за кошт прадпрыемства.

Работніцы крамы прадалі дзевяць мабільных тэлефонаў без чэка, а грошы паклалі ў касу салона для пагашэння нястачы. Акрамя таго, фігурантkі бралі грошы на асабістыя патрэбы.

Аферу раскрылі сталічныя рэвізоры. Яны заўважылі недахоп дзевяці мабільных прылад агульным коштам звыш трох тысяч рублёў. А ў касе недалічыліся парадку дзевяцісот рублёў. У цэлым, шкоду кампанія ацаніла ў чатыры тысячы рублёў.

Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Прысваенне альбо растрата».

За махінацыі ім пагражае пазбаўленне волі да пяці гадоў са штрафам альбо без яго і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю або без пазбаўлення.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага РАУС.**

## На ільянскім мосце ў выхадныя ўтварыўся затор са ста машын

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнне адбылося ў суботу, 21 верасня.

Аўтамабільны мост праз раку Ілію, які мясцовыя называюць «лукавецкім», якраз рамантавалі, паведамілі ў Вілейскім РАУС.

Апоўдні тут сутыкнуліся МАЗ і «Шкода». Ніхто не пацярпеў. Аднак утварыўся затор, у якім было каля сотні машын.

Супрацоўнікі ДАІ, якія прыехалі на месца, аднавілі рух.

У той жа дзень у суполцы «Вёска Ілья», што «Укантакце» ў 17:16 з'явіўся такі допіс:

«У Ільі па накірунку на Мінск/Лагойск рамантуюць мост. Пры гэтым ледзь працуе адна паласа. Няма ніякай арганізацыі аб'езду. Раю выбіраць альтэрнатыўныя маршруты або рыхтавацца згубіць шмат часу ў заторы...»

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ноччу ў выхадныя гарэла лазня

**ВІЛЕЙКА**

Пажар здарыўся ноччу з суботы на нядзелю.

Выратавальнікам пра яго паведамілі пасля гадзіны ночы 22 верасня.

Гарэла лазня ў вёсцы Навасёлкі Даўгінаўскага сельсавета. Агонь знішчыў дах, памяшканні лазні абгарэлі знутры.

Дом, на двары якога стаяла лазня, выкарыстоўвалі як лецішча. Гаспадары – жыхары сталіцы. Вядома, што 21 верасня яны цяплілі лазню. Калі здарыўся пажар, былі ўжо ў доме.

Па словах старшага інжынера інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Яўгена Камарова**, людзі не пацярпелі. Іншыя будынкі ў двары агонь не пашкодзіў. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота забяспечанае Леанідам ЛЫСАКАБЫЛКАМ.

Аб'яднанне «Краяны».

# У Маладзечне запускаюць курсы ўкраінскай мовы

МАЛАДЗЕЧНА

**Першыя заняткі пройдуць у чацвер, 3 кастрычніка.**

Падрабязней пра курсы і тое, як да іх далучыцца, распавяла ўдзельнік маладзечанскага аб'яднання ўкраінцаў «Краяны» **Ясенія Мікуліч**.

### Заняткі: дзе, калі і як

Заняткі будуць праходзіць па чацвяргах ад 18 да 20 гадзін. Для курсаў прадугледжанае памяшканне ў кабінеце №26 па Вялікім Гасцінцы, 52, у Маладзечанскім музычным каледжы імя Агінскага.

Весці заняткі будзе **Наталка Бабіна**, якая дзеля курсаў будзе прыязджаць з Мінска.

> Усё навучанне – цалкам бясплатнае.

Ужо ў групу набралася дзесяць чалавек. Далучыцца да курсаў можа любы ахвотны. Для гэтага проста патэлефануйце на нумар Ясеніі: (8-029) 806-32-81, 760-52-25.

### Што будуць вывучаць

Як распавяла Ясенія, пачынаць вывучаць украінскую мову будуць з самага пачатку – з алфавіта. Ужо нават набылі буквар, каб пачаць заняткі.

– Гэта неабходна, каб мы навучыліся правільнаму вымаўленню. Мы з «Краянамі» і задумалі адкрыць курсы, каб у першую чаргу пазбавіцца ад памылак у вуснай гаворцы. А многія з нас, і я ў тым ліку, спяваем украінскія песні.

> Таму, канешне, у першую чаргу нас будзе цікавіць, як правільна размаўляць па-ўкраінску так, каб не было няёмка перад носьбітамі мовы.

Абмеркаваць ідэю курсаў прадстаўнікі «Краянаў» хадзілі да старшыні райвыканкама **Юрыя Горлава**. Як распавяла Ясенія, старшыню зацікавіла, што ў Маладзечне ёсць украінскае аб'яднанне. Ён падбадзёрыў актывістаў тым, што культуру трэба развіваць, а курсы мовы-суседкі будуць гэтаму спрыяць.

Дырэктар музкаледжа **Рыгор Сарока** адразу пайшоў насустрач актывістам і пагадзіўся даць на бязвыплатнай аснове памяшканне, дзе будуць займацца ўдзельнікі курсаў.

### Чаму курсы важныя

У «Краянах» 47 удзельнікаў, яшчэ восем нядаўна далучыліся. Усе ўдзельнікі аб'яднання спяваюць, многія ўдзельнічаюць у сустрэчах з прадстаўнікамі Украінскай Амбасады, міжнародных праектах. Таму неабходнасць вучыць мову наспела даўно.

Ясенія – салістка ансамбля «Краяны». Яна мае ўкраінскія карані, і ў юнацтве гаварыла па-ўкраінску. Пасля выйшла замуж, пераехала на Маладзечаншчыну, і мова набыла беларускія адметнасці. А каб далей спяваць украінскія песні з правільным вымаўленнем, жанчына палічыла неабходным вучыць мову.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Стартап-школа ў Маладзечне адкрывае сезон. Тэма «Звычкі паспяховага кіраўніка»

МАЛАДЗЕЧНА

Запрашаюць на адкрыццё новага сезона стартап-школы Маладзечна.

### Тэма «Звычкі паспяховага кіраўніка»

Узаемадзеянне з камандай. Правілы і табу.

Павялічваем асабістую эфектыўнасць простымі крокамі.

Працуем з памылкамі і факапамі.

Спікер – **Вікторыя Радзюкова** (Мінск):

HR-дырэктар. Трэнер. Спецыяліст па развіцці таленту;

навучанне топ-менеджараў кампаній, выбудоўванне бізнес-працэсаў па працы з персаналам з нуля;

заснавальнік і дырэктар кампаніі Humming;

досвед працы ў найбуйнейшых кампаніях Беларусі.

### Для каго гэта сустрэча стартап-школы

Для прадпрымальнікаў і дырэктараў бізнесу; для тых, хто пакуль працуе адзін, але думае аб тым, што яму неабходная каманда; для тых, каму надакучыла працаваць па найме і хто гатовы паспрабаваць сілы ў прадпрымальніцтве.

### Арганізацыйныя моманты

Калі? 27 верасня (пятніца) у 18:00 (рэгістрацыя – ад 17:45).

Дзе? У Адукацыйным цэнтры «Адкрытае прастора» (вул. Валынца 12-б/1).

На сустрэчы прадугледжаная кава-паўза.

Кошт: бясплатна. У гонар адкрыцця новага сезона

Хочаце далучыцца? Проста запішыцеся праз QR-код. Падніciце да кода камеру мабільнага тэлефона. Адкрыйце дадатак для счытвання QR-кодаў і пераходзьце па спасылцы.

Усе заняткі стартап-школы Маладзечна праводзяцца адукацыйным цэнтрам «Адкрытая прастора» ў партнёрстве з грамадскім аб'яднаннем «Таварыства садзейнічання інавацыйнаму бізнесу», у рамках праекта «Стварэнне ўстойлівай інфраструктуры для падтрымкі развіцця стартапаў і малога бізнесу ў рэгіёнах Беларусі», які рэалізуецца Таварыствам садзейнічання інавацыйнаму бізнесу пры падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID).

**Аддзел інфармацыі.**

## Мытную пошліну за перавышэнне лімітаў на пасылкі з-за мяжы ўдвая знізяць

У Беларусі ўдвая знізяць мытную пошліну за перавышэнне лімітаў на пасылкі з-за мяжы.

Такое рашэнне прыняла Еўразійская эканамічная камісія ў сувязі з паэтапным скарачэннем нормаў.

Ужо з наступнага года пошліна будзе складаць 15% замест 30% ад кошту ўвазнога тавару. А перавага – не менш за два еўра за перавышэнне ў адзін кілаграм. Гэта новаўвядзенне для ўсіх краін ЕАЭС, куды разам з Беларуссю таксама ўваходзяць Расія, Казахстан, Арменія і Кыргызстан. Цяпер у Беларусі ліміты бяспошліннага ўвозу складаюць 200 еўра і 31 кг у месяц, прычым адна пасылка не можа перавышаць 22 еўра і 10 кілаграмаў.

**Паводле АНТ.**

## Педагогам, што працуюць у вёсках, павысяць аклад на 20%

Пра гэта паведамляюць на Прававым партале Рэспублікі Беларусь.

Згодна з пастановай Савета Міністраў ад 18 верасня 2019 года №630, на 20% павысяць аклады:

педагогам, якія працуюць у школах і садках у сельскай мясцовасці;

прыёмным-бацькам, бацькам-выхавальнікам у сельскай мясцовасці.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• FIAT SCUDO, 1999 г.в., легкавы мінівэн альбо абмен на машыну меншага памеру. Т. МТС (8-033) 6384522 Святлана.*

• Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Міцубісі-Спэйс Ранер, 1996 г.в., капітальны рамонт рухавіка, 2,0 турбадызель, мінівэн. Т. (8-033) 3147253.

• Рэно-Лагуна, 2010 г.в., х/б, CDI, 1,5, белае, з Францыі, 13500 . Т. (8-029) 6870898.*

• Фольксваген-Гольф 3, 1,4 мона, 5-дзверны, па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Форд КА, 1999 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

### ПРАДАЕЦЦА

## НЕРУХОМАСЦЬ

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне або абмяняю на кватэру ў Валожыне ці Маладзечне. Т. (8-0176) 533659, (8-025) 9115360, (8-033) 6384534.*

• 2-пакаёвая кватэра на 2 паверсе ў Вілейцы. Нядорага. Тэрмінова. Т. (8-01771) 39665.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул.Чкалава, 8. Цана 66 тысяч рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Касманаўтаў,11, гаражны кааператыў №18 па вул. Касманаўтаў. Т. МТС (8-033) 6384522, Святлана.*

• Гараж 22 кв.м у Маладзечне па вул. Машэрава, ГК «Бампер №4». Памер 5,8х3,8 + падвал па ўсім перыметры. Цана 5 тысяч рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дача СТ «Бярозка» ў Татаршчызне. Т. (8-029) 1826840, (8-0176) 523653.

• Дача на беразе ракі Вілія, в. Алянец, 22 км ад Маладзечна, 14 км ад Смаргоні. Участак 6 сотак, дом 30 кв. м. Цана 12 500 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.

• Дом у вёсцы Астравы. Т. (8-029) 1595099.

• Дом цагляны ў в. Залессе Смаргонскага раёна,100 кв. м, пячное ацяпленне, камін, шклопакеты, водаправод, бойлер, каналізацыя, хлеўчык, склеп, калодзеж, сад, 17 сотак, добрая агароджа. Прамая электрычка да Мінска. Т. (8-029) 2650961.*

• Кватэра ў Маладзечне, вул. Драздовіча, 2. Т. (8-0176) 55-42-47, (8-029) 2583898, (8-033) 6610301.

• Пабудова драўляная памерам 4,5 м х 4,5 м у в. Седзіца, 22 Вілейскага раёна. Нядорага. Т. (8-01771) 21325.

• Участак 20 сотак, Вілейскі раён, в. Порса. Т. (8-033) 6687966.*

### КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 6511477.*

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў 6 мікраёне г. Маладзечна для маладых спецыялістаў. Т. (8-029) 5719435.*

• 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, раён «Зеніт». Т. (8-029) 7762020.

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вядучы. Музыка на ўрачыстасць. **СКРЫПКА. САКСАФОН**. ІП Станкевіч Н.М. УНП 692027819. Тел. (8-044) 5945440.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Анop С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для консультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Вырабім падаконнікі з масіву дуба пад заказ па вашых памерах. УП «СолаС-плюс» УНП 690617644. Т. (8-029) 6368886.

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніторaў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зеляпко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліцэ, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты в'етнамскія, 2,5 месяца, па 60 рублёў. Т. (8-029) 8771541, (8-029) 2523254.

• Парасяты кармалаў, бульба. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Пеўні маладыя па 7 рублёў. Т. (8-029) 2698633.*

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі. Т. (8-029) 7046266.*

**Іншае**

• Бульба. Т. (8-029) 5062507, (8-029) 6980347.*

• Буракі кармавыя, кабачкі, гарбузы (на корм жывёле). Магчымая дастаўка. Т. (8-029) 6887462.

• Гандлёвы павільён (харчовы) на рынку ў Вілейцы. Т. (8-029) 7016721.*

• Кацёл у лазню. Т. 98-029) 8641666.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т.(8-029) 2552321.*

**Антыкварыят**

• Манету царскую. Т. Вэлком (8-029) 64881147.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігі на мовах славянскіх народаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Лодку «Казанка». Матор «Віхор» на запчасткі. Т. (8-044) 7477701.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Бармен і памочнік повара ў кафэ «Парк» в. Шараі Валожынскага раёна. Магчыма пражыванне. Дастойная аплата працы. Т. (8-029) 6057445.*

# Насельніцтва дзвюх Вілеек. Столькі штогод забівае шаленства

**Кожны год у свеце ад шаленства памірае 55 тысяч чалавек – адзін чалавек кожныя дзесяць хвілін.**

У Беларусі за апошнія 28 гадоў захварэлі і памерлі ад шаленства 16 чалавек.

Штогод дактары ў нашай краіне рэгіструюць да шасцісот выпадкаў шаленства сярод дзікіх і свойскіх жывёл. З дзікіх – гэта лісы, янотападобныя сабакі, з дамашніх – сабакі і каты, з сельскагаспадарчых – буйная рагатая жывёла, коні. Усе яны патэнцыйна могуць стаць прычынай захворвання і смерці людзей.

У пераважнай большасці выпадкаў смерці людзей ад шаленства крыніцай інфекцыі выступаюць сабакі і каты. Менавіта на іх прыходзіцца да 90% усіх выпадкаў перадачы шаленства людзям.

Хвароба перадаецца праз укусы ці драпіны, звычайна са слінай.



Фота tinydog.ru.

У 90% выпадкаў шаленства перадаецца людзям ад сабак і катоў.

### Правілы, каб прадухіліць сімптомы і смяротны зыход

Эфектыўная медыцынская дапамога, аказаная неўзабаве пасля кантакту, можа прадухіліць сімптомы і смяротны зыход.

Абараніць сябе і навакольных ад шаленства можна, выконваючы шэраг простых правілаў, якія адыграюць вырашальную ролю ў выратаванні жыцця:

– выконваць устаноўленыя правілы ўтрымання дамашніх жывёл (сабак, катоў) і штогод абавязкова прыносіць сваіх гадаванцаў у ветэрынарную станцыю па месцы жыхарства для прафілактычных прышчэпак супраць шаленства;

– калі вы вырашылі прытуліць безнагляднýю дамашнюю жывёлу, яе неабходна ў кароткі тэрмін паказаць ветэрынару, агледзець і прышчапіць ад шаленства;

– пазбягаць кантактаў з дзікімі жывёламі, якія прыйшлі ў населеныя пункты, на падворак. Паколькі здаровыя дзікія жывёлы, як правіла, пазбягаюць сустрэчы з чалавекам;

– калі заўважылі змены ў паводзінах дамашняй жывёлы, пашкоджанні ад іншай жывёлы, калі ваш гадаванец памёр без бачных на тое прычын, неабходна абавязкова звярнуцца да ветэрынара. Гэта трэба для ўстанаўлення дзесяцідзённага назірання або высвятлення прычыны смерці жывёлы. Тэлефоны: **(8-0176) 50-04-09, 52-32-26**.

### Што рабіць, калі вас пакусала жывёла

Калі вас укусіла жывёла, трэба неадкладна звярнуцца ў траўматалагічны пункт прыёмнага пакоя бальніцы №1 або прыёмны пакой дзіцячай бальніцы, якія працуюць кругласутачна без выхадных, для вырашэння пытання аб неабходнасці прызначэння антырабічнага лячэння.

Ні ў якім разе нельга адмаўляцца ад прызначанага лячэння або самавольна перарываць яго. Гэта можа прывесці да трагічных наступстваў.

Памятайце! Чым раней пачатыя прышчэпкі, тым надзейней яны засцерагаюць ад захворвання на шаленства.

Сусветны дзень барацьбы супраць шаленства праводзіцца штогод 28 верасня па ініцыятыве Глабальнага альянсу па кантролі шаленства пры падтрымцы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

У гэты дзень спецыялісты павышаюць дасведчанасць людзей аб прафілактыцы, расказваюць пра паспяховыя прыклады барацьбы з гэтым смяротным захворваннем.

На шаленства хварэюць практычна ўсе віды млекакормячых. Беларусь знаходзіцца сярод краін, дзе на працягу доўгага часу назіраюцца выпадкі захворвання на шаленства жывёл і адзінкавыя выпадкі заражэння і смерці людзей ад шаленства.

Сёння бяспечныя і дзейсныя вакцыны для жывёл і чалавека ўваходзяць у набор важных сродкаў барацьбы са смяротнасцю ад шаленства сярод людзей.

Дэвіз дня – «Асвета. Вакцынацыя. Ліквідацыя». У ім падкрэсліваецца два найважнейшыя дзеянні, дзякуючы якім можна цалкам ліквідаваць да 2030 года смяротнасць ад шаленства сярод людзей.

### Факты з гісторыі

Ад шаленства, заразіўшыся вірусам ад кошкі, памёр амерыканскі пісьменнік Эдгар По.

Першыя згадкі пра шаленства выяўленыя ў 2300 годзе да нашай эры ў лістах Дэмакрыта, Арыстоцеля, Гамера.

Першае дакладнае апісанне гэтай хваробы зрабіў рымскі вучоны А. Карнэліус Сілсус у першым стагоддзі да нашай эры.

**Маргарыта ПРАЦКОВА, доктар-эпідэміёлаг, Маладзечна.**

# Працягваем акцыю «Супергаспадар»

## Удзельнічайце і атрымлівайце падарункі

**Вы ўсё лета шчыравалі ў агародзе і цяпер можаце пахваліцца памідорамі, перцамі і кабачкамі? Або, загараючы на сонейку, павязвалі прыгожыя дызайнерскія рэчы?**

Любіце гатаваць? Самастойна майструеце мэблю для ўласнай кватэры?

**Тады наша традыцыйная акцыя «Супергаспадар» для вас.**

Дасылайце на нашу пошту **regionnews@rh.by** лепшыя фотаздымкі, звязаныя з гаспадаркай.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by.

Адзін найлепшы здымак абяром самі. Другі – абяруць нашы чытачы падчас галасавання.

**Для пераможцаў мы падрыхтавалі падарункі.**

Дасылаць здымкі нашы чытачы могуць да 7 кастрычніка. Пасля мы размесцім на нашым сайце **rh.by** галасаванне. А 14 кастрычніка мы абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Супергаспадар».

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Элісан Ханіган



Фота wallpapercave.com.

**Амерыканская актрыса, найбольш вядомая ролямі Уілаў Розэнберг у тэлесерыяле «Бафі – знішчальніца вампіраў» і «Анёл», Лілі Олдрын ў «Як я сустрэў вашу маму» і Мішэль Флаэрці ў серыі фільмаў «Амерыканскі пірог».**

У чатыры гады Ханіган пачала з'яўляцца ў рэкламных роліках. Яна пераехала ў Галівуд у 11 гадоў. Першая галоўная роля Элісан была ў карціне «Мая мачаха – прышэлец» у 1988 годзе.

## Прызнанне пасля «Бафі»

У 1997 годзе Ханіган сыграла Уілаў Розэнберг, лепшую сяброўку Бафі Самерс, у тэлесерыяле «Бафі – знішчальніца вампіраў». Шоу стала паспяховым, а Ханіган атрымала прызнанне, пасля чаго з'явілася ў некалькіх фільмах, накіраваных на падлеткавую аўдыторыю. У тым ліку «Амерыканскі пірог», «Хлопчыкі і дзяўчынкі», «Амерыканскі пірог 2» і «Амерыканскае вяселле». У яе таксама была гасцявая роля ў спін-офе «Бафі» – «Энджэл».

## Тэатр і вяртанне на ТБ

У пачатку 2004 года Ханіган дэбютавала ў Вест-Эндзе, зняўшыся ў сцэнальнай экранізацыі «Калі Гары сустрэў Салі». У 2005 годзе Ханіган вярнулася на тэлебачанне. Яна знялася ў галоўнай ролі ў тэлесерыяле: яе гераіню звалі Лілі Олдрын, а кінастужку «Як я сустрэў вашу маці». У той жа час яна здымалася ў серыяле «Веранiка Марс» у ролі Трыны Экалс. У 2006 годзе знялася ў ролі Джулії Джонс у стужцы «Фільм спатканняў».

## Асабістае жыццё

У 2003 годзе Ханіган выйшла замуж за Алексіса Дзянісафа. У пары ёсць дзве дачкі – Сацьяна Мары і Джэйн Кіева. Элісан Ханіган удзельнічала з Эмілі Дэшанэль, Хаймэ Кінг, Мінкай Кэлі і Кэтарын Макфі ў сацыяльным роліку на тэму абследавання раку малочнай залозы.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 СЕНТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30, 16.00** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«СВЕТСКАЯ ЖИЗНЬ».**
**9.15, 18.10** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**10.45** Д/ф.
**11.00** «Необычайные деревни».
**11.05** Х/ф **«СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН».**
**13.45, 19.45** Т/с **«ЗОНТИК ДЛЯ ГЕРОЯ».**
**14.45** Т/с **«НЕБЕСНЫЙ ЗАМОК».**
**16.30** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДОЛГАЯ ПОМОЛВКА».**
**23.20** Т/с **«ПРИЛИВ».**

### ВТОРНИК, 1 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 23.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30, 16.00** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«СО ДНА ВЕРШИНЫ».**
**9.15, 18.15** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**10.45** Д/ф «ТАЙНЫ ВОДЫ».
**11.30** Х/ф **«ДОЛГАЯ ПОМОЛВКА».**
**13.45, 19.45** Т/с **«ЗОНТИК ДЛЯ ГЕРОЯ».**
**14.50** Т/с **«НЕБЕСНЫЙ ЗАМОК».**
**16.30** Х/ф **«ЛИЧНЫЕ СЧЕТЫ».**
**20.45** «Необычайные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НА ГРЕБНЕ ВОЛНЫ».**
**23.00** Т/с **«ПРИЛИВ».**

### СРЕДА, 2 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 17.25, 21.05, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК ИЗ СТАЛИ».**
**10.00, 17.30** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**11.30** Д/ф.
**11.55, 20.45** «Необычайные деревни».
**12.00** Х/ф **«ПРОСТИ ЗА ЛЮБОВЬ».**
**13.45, 19.50** Т/с **«ЗОНТИК ДЛЯ ГЕРОЯ».**
**14.45** Т/с **«НЕБЕСНЫЙ ЗАМОК».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.10** Х/ф **«СОВЕТЫ С ТОГО СВЕТА».**
**19.00** «Законы привлекательности».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«АДВОКАТ ДЬЯВОЛА».**
**23.35** Т/с **«ПРИЛИВ».**

### ЧЕТВЕРГ, 3 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.15, 21.05, 0.15** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«РАЗВОД НАДЕРА И СИМИН».**
**9.45, 18.20** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**11.20** Х/ф **«АДВОКАТ ДЬЯВОЛА».**
**13.50, 19.50** Т/с **«ЗОНТИК ДЛЯ ГЕРОЯ».**
**14.50** Т/с **«НЕБЕСНЫЙ ЗАМОК».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Х/ф **«АВАРИЯ».**
**18.05** «Фешн is my профешн».
**20.45** «Необычные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ТРИ ПОДРУГИ НА ОХОТЕ».**

### ПЯТНИЦА, 4 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30, 16.00** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ВЕЛИКОЛЕПНАЯ СЕМЕРКА».**
**9.50, 18.30** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**11.25** «Необычные деревни». «.
**11.30** Х/ф **«ЗОЛОТОЙ ГЛАЗ».**
**13.40, 20.00** Т/с **«ЗОНТИК ДЛЯ ГЕРОЯ».**
**14.35** Т/с **«НЕБЕСНЫЙ ЗАМОК».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.20** Х/ф **«ЗАПЛАТИ ДРУГОМУ».**
**18.20** «Необычные деревни».
**20.45** «Необычайные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.40** Х/ф **«ДЖОН УИК».**
**0.50** Т/с **«ПРИЛИВ».**

### СУББОТА, 5 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.10, 18.55, 21.15, 0.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Золушка».
**8.20** Х/ф **«ЛЕГКОЕ ПОВЕДЕНИЕ».**
**9.55** «Утрямдия».
**10.10** Х/ф **«ТРИ ПОДРУГИ НА ОХОТЕ».**
**13.20** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**15.15** «Смотрим всей семьей». «Балто».
**16.30** Х/ф **«НА ГЛУБИНЕ ШЕСТИ ФУТОВ».**
**18.10** «Законы привлекательности».
**19.00** Х/ф **«47 РОНИНОВ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ЦЕЛЬ НОМЕР ОДИН».**
**0.00** Т/с **«ПРИЛИВ».**

### Воскресенье

**7.00, 13.40, 19.00, 21.05, 0.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Робинзон Крузо».
**8.35** Х/ф **«ВОЛШЕБНАЯ ЛАМПА АЛАДДИНА».**
**9.55** «Утрямдия».
**10.00** «Законы привлекательности».
**10.45** «Вечерний квартал-95».
**12.00** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**13.45** «Смотрим всей семьей». «Пираты Карибского моря».
**16.05** Мультфильмы.
**16.15** «Необычайные деревни».
**16.20** Х/ф **«В ЛЮБВИ И В ВОЙНЕ».**
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«ПОСЛЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«О БЕДНОМ ГУСАРЕ ЗАМОЛВИТЕ СЛОВО».**
**23.50** Т/с **«ПРИЛИВ».**



## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 СЕНТЯБРЯ

**6.30** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**8.00, 14.25, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**16.00** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ».**
**17.40** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** Свет души.
**20.20** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ».**

### ВТОРНИК, 1 ОКТЯБРЯ

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.20, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25, 17.50, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**14.05** Х/ф **«ЁЛКИ-5».**
**15.40** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**19.20** Рядом со звездами.
**20.20** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА».**

### СРЕДА, 2 ОКТЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Рядом со звездами.
**8.20, 19.20** Мая Радзіма.
**10.00** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**
**12.00, 15.50, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ШЕФ».**
**14.25** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**20.30** Музыкальная открытка.

### ЧЕТВЕРГ, 3 ОКТЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Свет души.
**8.20** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**9.50** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**11.20, 15.30, 22.20** Мажорный лад.
**12.15** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.45** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**

### ПЯТНИЦА, 4 ОКТЯБРЯ

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.20** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**9.50, 22.30** Мажорный лад.
**12.05** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**13.50** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**15.40** Х/ф **«ИГРА В 4 РУКИ».**
**17.30** Новости БЖД.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.30** Рядом со звездами.

### СУББОТА, 5 ОКТЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 19.30** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**10.35** Х/ф **«РАЗВОД ПО-ФРАНЦУЗСКИ».**
**11.55** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**13.25** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**15.35, 21.10** Новости БЖД.
**15.50, 19.40, 22.30** Мажорный лад.
**16.40** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**
**20.30** Музыкальная открытка.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 6 ОКТЯБРЯ

**6.30** Мажорный лад.
**10.00** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**11.25** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**
**13.20** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**14.55** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**16.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**17.50** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**19.35** Х/ф **«НОЧНАЯ СМЕНА».**
**21.35** Х/ф **«СТАЖЕР».**

### Беларусь 1

**6.40** Х/ф **«КОРОЛЕВА «МАРГО».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол!».

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Маршрут построен.

**13.15** Х/ф **«ТЫ МОЙ СВЕТ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Х/ф **«ГДЕ ЖИВЕТ НАДЕЖДА?».**

**19.45** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«МЕЛОДИЯ НА ДВА ГОЛОСА».**

### Беларусь 2

**6.55** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**8.10** Т/с **«ЛЮБИМЦЫ».**

**9.10, 19.35** Телебарометр.

**9.15** «Зов крови». Социальное реалити-шоу.

**10.25** «Селаполетела». Трэвел-шоу.

**11.00** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.50** «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн- шоу.

**12.50** Х/ф **«ИГРЫ РАЗУМА».**

**15.05** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.20** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** «Третий лишний». Реалити-шоу.

**22.15** Х/ф **«МИЛЛИОНЕР ИЗ ТРУЩОБ».**

**0.15** «Орел и Решка. Рай и ад 2». Трэвел-шоу.

### Беларусь 3

**7.25, 16.20, 20.15** Навіны культуры.

**7.45, 20.35** «Гэты дзень».

**7.50** «Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Пасахі.

**11.00** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**11.35** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.30** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». «Дваццатае стагоддзе пачынаецца» [СТ].

**15.05** Святочны канцэрт, прысвечаны Дню настаўніка.

**16.40** «Карона Расійскай імперыі, ці Зноў няўлоўныя». Мастацкі фільм [СТ].

**18.55** «Дзесяць фатаграфій». Барыс Грачэўскі.

**19.35** Прэм'ера. «Фарбы памяці. Леанід Шчамялёў».

**20.00** Прэм'ера. «На вышыні». Музыкант Дзмітрый Калацiла.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Лёгкае жыццё». Мастацкі фільм.

**22.40** «Что я люблю, во что я верю…». Юбілейны канцэрт народнага артыста Беларусі Валянціна Дудкевіча.

### ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«В ПЛЕНУ ОБМАНА».**

**11.35** «Видели видео?».

**14.25** Премьера. Праздничный концерт к Дню учителя.

**16.20** Премьера. Праздничный концерт к Дню учителя. Продолжение.

**17.10** Премьера. Гарик Мартиросян в новом музыкальном проекте «Щас спою!».

**18.20** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** Премьера. Вячеслав Никонов и Дмитрий Саймс в программе «Большая игра».

**23.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.30** «Что? Где? Когда?». Осенняя серия игр.

**0.45** «Про любовь».

### СТВ

**6.00** «Странное дело».

**7.35** Документальный спецпроект.

**9.15** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05, 20.35** Документальный проект.

**11.35, 13.40, 16.40** Т/с **«УЧАСТОК ЛЕЙТЕНАНТА КАЧУРЫ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Неделя спорта».

**23.00** «Засекреченные списки».

**0.50** ПРЕМЬЕРА. Концерт «НАШИ в городе!».

### Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**6.55** «Знаем русский».

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.45, 16.15, 19.30** Т/с **«ОТДЕЛ СССР».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**19.50, 1.00** Т/с **«КРИК СОВЫ».**

### НТВ-Беларусь

**5.50** «Астропрогноз».

**6.00** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**7.00** Х/ф **«СМОТРИТЕЛЬ МАЯКА».**

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.40** «Однажды…».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** «Секрет на миллион». Сергей Лазарев.

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** Х/ф **«ДЕНЬ ОТЧАЯНИЯ».**

### БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Т/с **«ДЕРЖИСЬ ЗА ОБЛАКА».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** «Смехопанорама».

**14.30** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**16.15** Х/ф **«ШКОЛЬНЫЙ ВАЛЬС».**

**18.05, 21.55** Х/ф **«ДОКТОР УЛИТКА».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**23.10** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.50** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 16.35** Интуиция. **8.20** Правила виноделов. **10.40** Реальные упыри. **12.20** Джули и Джулия: Готовим счастье по рецепту. **14.40** Эволюция. **18.15** Девять ярдов. **20.10** Девять Ярдов 2. **22.05** Социальная сеть. **0.20** Резня. **1.55** Борг/Макинрой. **3.45** Пианист.

### TV1000 ACTION

**7.25** Поезд на Юму. **9.45** Кровный отец. **11.20** Голем. **13.20** Джон Уик 2. **15.30** Дэнни Цепной пёс. **17.25** Из Парижа с любовью. **19.10** Starперцы. **21.10** Чистильщик. **22.45** Ирландец. **0.50** Воин. **3.10** Чёрный дрозд. **5.10** Уцелевшая.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.20** Я худею. **9.15** Черная курица, или Подземные жители. **10.35** Как встретить праздник не по-детски. **12.10** Легенда №17. **14.45** Тихая застава. **16.30** Неуловимые. **18.15** Метро. **20.45, 5.30** Всё включено 2. **22.35** Духless 2. **0.40** Олимпиус Инферно. **2.25** Я любить тебя буду, можно? **3.30** В движении.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Новый день». **9.30, 10.30** Т/с **«ДОБРАЯ ВЕДЬМА». 11.30** Х/ф **«ВРАТА». 13.30** Х/ф **«БЕГУЩИЙ ПО ЛЕЗВИЮ 2049». 16.45** Х/ф **«Я, РОБОТ». 19.00** Х/ф **«РАЙОН №9». 21.15** Х/ф **«ФАКУЛЬТЕТ». 23.30** «Мама Russia». **0.15** Х/ф **«ДРУЖИННИКИ». 2.15** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК ТЬМЫ». 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 12.00, 13.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 14.00, 15.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 20.00, 21.00** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«БЕЗ ПРАВА НА ОШИБКУ». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ГАЛИНА». 6.00, 7.00** Т/с **«НАВИГАТОР».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55, 13.45** Х/ф **«РОБИН ГУД». 3.25** Х/ф **«НОЧНАЯ СМЕНА». 5.20** Х/ф **«}{ОТТ@БЬ)Ч». 7.15** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ». 9.15** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА». 11.20** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2». 16.15** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ ШПИОН». 17.55** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ». 19.35** Х/ф **«ТРЕЗВЫЙ ВОДИТЕЛЬ». 21.30** Х/ф **«СУТЕНЕР». 23.10** Х/ф **«СЕКСА МНОГО НЕ БЫВАЕТ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00** Далеко от войны. **2.00, 3.00, 4.00, 4.50, 5.50, 7.00, 8.00, 9.00** Прощай, любимая. **10.05, 11.05, 12.05, 13.00** Григорий Р. **14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.05, 23.10** Метод Фрейда 2.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.15, 9.15, 10.40, 11.40, 12.15, 14.40, 16.55, 19.15, 21.05, 22.40** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.50** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.45** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР 3: ВОССТАНИЕ МАШИН». 17.00** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: ДА ПРИДЁТ СПАСИТЕЛЬ». 19.20** Х/ф **«РИО». 21.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.45** «КВН. ПА-НАШАМУ». **23.45** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **0.20** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 2.10** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.40** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **3.30** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Тренировочный день. **7.30** Футбол. Чемпионат Англии. Ливерпуль – Лестер. **9.30** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Неман (Гродно) – Динамо (Брест). **11.30** Теннис. WTA. Пекин. Финал. **13.35** Азбука спорта. **13.45** Пит-стоп. **14.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Ислочь (Минский р-н) – Динамо-Минск. **16.20** Вот это спорт! **16.30** Овертайм. КХЛ. **17.00** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск – Ак Барс (Казань). В перерывах Овертайм. КХЛ. **19.15** Легкая атлетика. Чемпионат мира. **21.40** Спорт-центр. **21.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Обзор тура. **22.35** Итоги недели. **23.20** Прыжки на батуте. Кубок мира. Вальядолид.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 11.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. HS 140. **1.15, 5.30, 18.00** Велоспорт. Бельгия. **2.30, 6.30** Велоспорт. «Джиро дель Эмилия». **5.15, 16.00** Watts. **7.30** Снукер. China Championship. Финал. **9.30, 21.05** Автогонки. World Endurance. Фудзи. **12.45** Велоспорт. «Тур Хорватии». 5-й этап. **14.00** Велоспорт. «Тур Хорватии». 6-й этап. **16.15** Велоспорт. Famenne Ardenne Classic. **19.00** Велоспорт. Кубок Франции. **20.05** Велоспорт. Кубок Италии. **23.00** Плавание. International Swimming League.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Советы юриста. **6.40, 8.15** Мото-тест. **6.55** Вечер с Пикуленко. **7.35** Испытание на прочность. **8.05, 10.35, 13.20, 16.20, 18.55, 23.55, 1.30, 3.20** Итоговые новости. **8.30** Автовинтаж. **9.05** Автодело. **9.35** От Кавказа до Аравии. **10.50, 19.40, 22.40, 2.55, 3.35** Гаражная команда. **11.15, 20.30, 23.30, 3.55** Сделано в России. **11.45, 21.00, 0.10, 4.25** Школа внедорожного вождения. **12.00** Байкал-трофи. **12.55, 13.35** Городские джунгли Азии. **16.35, 19.10** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **21.15, 4.40** Резьба по стали. **21.45, 5.05** Поездка выходного дня. **22.10, 5.30** Авто: вторые руки. **22.25, 5.45** Хорошо забытое. **0.25** Куда уходит детство. **0.35** Сравнительный тест. **1.05** Тест на «Драйве». **1.45** Комплектация. **2.15** Работяги. **2.30** Сити-тестер. Эксклюзив.

### EXPLORE

**6.00, 6.25, 6.50, 7.20, 7.45** Битва за карпов. **8.10, 9.00** Чудовищный карп. **9.50, 10.40** Большое рыболовное состязание. **11.30, 12.15, 13.05, 13.50, 14.40** Австралийские охотники на лобстеров. **15.30, 15.55, 16.20, 16.45** Нефритовая лихорадка. **17.10, 18.00** Переделка старья. **18.45, 19.40** Тренировка по древним традициям. **20.30, 21.15, 21.55, 22.40, 23.25** Электричество и лед. **0.05, 0.55, 1.40, 2.30, 3.20, 4.05, 4.55** Выжить на Аляске.

### HISTORY

**6.50, 5.15** Невероятные изобретения. **7.15, 8.10, 9.05, 10.05, 11.00** Мифические существа. **12.00, 13.00** Как климат изменил ход истории. **14.05** Частная жизнь коронованных особ. **15.00** Истории из королевской спальни. **16.10** Истории из королевского гардероба. **17.15** Шпионаж за монархами. **18.15, 19.05** Величайшие мистификации в истории. **20.00** 5000 лет истории Нила. **21.00** Разгадка тайны пирамид. **22.00** Частная жизнь. **22.55, 23.45** Загадочные убийства: царственные особы. **0.40, 1.10** Родовые проклятья. **1.35, 2.30** Карты убийства. **3.30, 4.20** Музейные тайны. **5.45** Запретная история.

### NATURE

**6.00, 7.00, 8.05** 10 щенков и все остальные. **9.10, 10.10, 11.05** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **12.00, 12.30, 13.00, 13.30** Уличный ветеринар. **14.00** Ветеринар из глубинки. **14.50, 15.40, 16.30, 17.20** Великая миграция. **18.10, 19.00** Неукротимая Румыния. **19.55, 20.50** Экспедиция в Европу. **21.45** Огромные звери: последние из великанов. **22.40** Загадки исчезнувших великанов. **23.35** Эволюция в действии. **0.35** Новый взгляд на тираннозавра. **1.30** Вскрытие мамонта. **2.25** Эхо динозавров. **3.25, 4.10, 5.00** Суперветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 1.20, 5.15** Панорама 360. **7.15, 8.00** Золото Юкона. **8.45** Возрождение морского шелкового пути. **9.30** Национальные парки Америки. **10.15** Враждебная планета. **11.05** «Начало». **12.40, 13.25** Дикий тунец. **14.15** Суперсооружения: чудеса инженерии. **15.00, 15.45, 16.30** Египет с величайшим исследователем в мире. **17.20, 18.05, 18.55, 19.45, 20.35, 21.20** Горячая зона. **22.05** Эпидемии: По ту сторону Горячей зоны. **22.55** Вдоль по каньону. **0.20, 4.20** Опасные путешествия. **1.10, 2.00** Авто – SOS. **2.45, 3.35** Исследователь 2.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.00** Спиннинг сегодня. **6.25, 23.30** Охота и рыбалка в. **6.55, 0.00** Охоты и охотники. **7.10** Поймать монстра. **8.00, 19.30, 2.20** Охота: собачья работа. **8.30, 20.05** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **9.00, 15.35, 20.35, 3.15** Нахлыст. **9.30, 16.05, 3.45** Егерский кордон. **9.55, 21.30** Карпфишинг. **10.25, 22.00** Один день из жизни. **10.55, 17.20, 1.25, 5.05** Оружейный клуб. **11.25, 19.00, 1.50, 5.35** Планета рыбака. **11.55** Дикая кухня. **12.40, 18.45, 1.10** Дело вкуса. **12.55** Рецепты Древней Колхиды. **13.15** Охота в Новом Свете. **13.40** Андрей Старков и его команда. **14.05** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **14.35** На рыбалку с охотой. **15.10, 2.50** Битва профессионалов. **16.35, 4.10** Нож-помощник. **16.50, 4.25** Охотничьи собаки. **17.50, 0.15** Рыболовные путешествия. **21.00** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **22.30** Фишермания. **4.50** Особенности охоты на Руси.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 22.10** Идеальные мастера. **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.15** Мультиварка. **7.15** Огород круглый год. **7.45, 11.45, 15.45, 19.50, 23.55, 3.55** Урожай на столе. **8.15, 12.15, 0.25** Крымские дачи. **8.45, 12.45, 0.55** Нескучный вечер. **9.00, 13.00, 1.05** Тихая моя родина. **9.30, 17.30, 21.40, 1.35, 5.35** Секреты стиля. **11.15, 23.25, 3.30** 10 самых больших ошибок. **13.30** Милости просим. **13.55, 18.00, 2.15** Большие идеи для маленького сада. **15.15** Огород круглый год. **15.30** Огород круглый год. Осенние работы. **16.15, 20.20, 4.20** Лучки-пучки. **16.30, 20.35, 4.35** Цветик-семицветик. **16.45, 20.50, 4.50** Высший сорт. **17.00, 21.05, 5.05** Альтернативный сад. **19.20** Гвоздь в стену. **2.00** Самогон.




Аўтобус «Вільня-Ашмяна» на здымку ў газеце Słowo, 1929 год.

# Кіроўцы і кандуктары курацЬ папяросы

## Што пісала газета Słowo ў 1929 годзе пра аўтобус «Вільня-Ашмяны»

**Арганізацыя аўтобуснай камунікацыі з Вільняй (маем ужо 15 машын, якія курсуюць з Вільні да Ашмяны і праз Ашмяну далей) была з радасцю прынятая жыхарамі горада і найбліжэйшых ваколіц.**

АШМЯНЫ

Пасля больш блізкага знаёмства на практыцы з гэтай камунікацыяй аказалася, што... няма ружы без шыпоў, а ёсць выпадкі, калі гэтыя шыпы несувымерна вялікія. Так ёсць і з аўтобуснай камунікацыяй.

Перадусім пры пасадцы ў машыну ніколі не ведаеш, хто кандуктар, бо яны амаль не носяць форменных шапак. Кіроўцы і кандуктары зусім не выконваюць правілы, якія забараняюць курыць і размаўляць падчас язды.

Шмат машын ездзіць з адкрытымі глушыцелямі, што ствapae гучны шум матору, ад якога пасля таго, як чалавек праедзе некалькі дзясяткаў кіламетраў, баліць галава. Мала таго – сумнеўна, што пры такім шуме кіроўца чуе сігналы машын, якія сустракае на паваротах, што можа прывесці да аварыі.

Сапраўдная бяда – пастухі. У суботу пры праездзе зараснікаў за Каменным Логам пастух кінуў каменем у аўтобус, які праязджаў. На шчасце, камень трапіў у раму. На 38 кіламетры ад Ашмяны на дарозе былі пакладзеныя вялікія камяні, а яшчэ далей пасярод дарогі быццам вогнішча.

Пра абарону аўтобусаў ад такіх выбрыкаў ніхто не думае, і ў той самы час органы бяспекі накіроўваюць свой нагляд на іншае, а менавіта забараняюць развіваць хуткасць больш за 40 кіламетраў у гадзіну. На жаль, пры нашым стане дарог нельга ехаць больш за 20 кіламетраў у гадзіну, аднак на добрай шашы кіроўца павінны павялічыць хуткасць, каб скарачіць і так доўгі час язды [паводле раскладу 1929 года, час у дарозе ад Ашмяны да Вільні быў 2,5 гадзіны – Кастусь Шыталь].

Горш за ўсё, што руль рэдка калі бывае ў адпаведных руках – і ў тым кірунку павінна быць ціkавасць уладаў. Пры добрым кіроўцы палепшыцца стан машын – а разам з тым і бяспека.

**Słowo, Nr. 216,**
**20 верасня 1929 года.**
**Пераклад Кастуся ШЫТАЛЯ.**

# Праз 50 год прыгадвалі настаўнікаў і школу

## Жыхар Маладзечаншчыны – пра свае вучнёўскія гады

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета мы з маімі аднакласнікамі адзначылі 50-годдзе заканчэння Дубраўскай сярэдняй школы.**

На сустрэчу прыйшло восем аднакласнікаў з двух выпускных класаў. Некаторых няма ў жывых. Сляды іншых згубіліся. Хтосьці не прыехаў, бо не было дзе спыніцца на начлег.

Амаль не засталося ў жывых і тых настаўнікаў, што вучылі нас.

Прыгадалі аднакласнікаў і педагогаў, запамінальныя гісторыі са школьнага жыцця, падзяліліся сённяшнімі клопатамі.

У апошніх класах я крыху ўзяўся за розум. Палепшыліся адзнакі па ўсіх прадметах, былі поспехі ў спорце. Мяне разам з сябрам уключылі ў зборную школы па футболе.

На вечары сустрэчы прыгадаў апошні званок пасля восьмага класа. Школу скончылі. Наперадзе – толькі кансультацыі і экзамены. Вялікай кампаніяй вяртаемся са школы. Ад паўнаты эмоцый і пачуццяў пачынаем гуляць у футбол на дарозе.

Машын у тыя часы было мала. Можа, адзін грузавік ці трактар у гадзіну.

Тым часам мяч паляцеў на ўзбочыну дарогі. Я ўключыўся ў барацьбу за мяч з хлопцам з паралельнага класа. І раптам атрымаў ад яго ўдар па назе. Пасля яшчэ і яшчэ. З носа пацякла кроў. Я нагнуўся, каб яе спыніць, і пачуў узрушаныя крыкі аднакласніц.

Падняў галаву і бачу: мой сапернік яшчэ з некалькімі аднавяскоўцамі ўцякае. Доўгі час мы не перасякаліся.

Я працягваў вучыцца ў школе, а ён паступіў у тэхнікум. Сустрэліся толькі праз 30 гадоў пасля таго выпадку на супрацьлеглых платформах электрычкі. У яго паглядзе я не прачытаў адчування віны за той выпадак. Убачыў толькі ўсмешку пераможцы.

Пра яго далейшы лёс мне мала вядома. Яго старэйшы брат па вайсковаму прызыву быў ліквідатарам Чарнобыля. Вярнуўшыся, прапанаваў і малодшаму паехаць добраахвотнікам, каб падзарабіць. Той паехаў. У выніку спачатку памёр старэйшы брат, а потым і малодшы.

Сёння цэнтр вёскі Дубрава змясціўся. Ён там, дзе шматпавярховыя дамы і трохпавярховая школа. Раней жа цэнтр быў на перасячэнні дарог Алёхнавічы-Дубрава і Дубрава-Гарадок. На рагу было некалькі будынкаў старой школы і клуб. Ад былога цэнтра цяпер засталася толькі пошта.

Тут я і сустрэў некалі аднаго свайго аднакласніка. Ён сядзеў на возе, пакуль жонка была на пошце. Павіталіся. І ён запытаў, ці памятаю я яго з сябрам, бо праз мяне пакінулі на другі год. Той выпадак я памятаў.

Хлопцы атрымалі двойкі за год і павінны былі займацца летам з настаўнікам дадаткова. У той дзень настаўніца дала ім кантрольнае заданне, а сама пайшла па важных справах, зачыніўшы хлопцаў у класе.

У гэты час я праязджаў каля школы на роварсы. Хлопцы адкрылі фортку і сталі мяне клікаць, каб я дапамог рашыць ім задачы. Я вагаўся, але чамусьці вырашыў не дапамагаць ім.

Прыгадаўшы гэты выпадак, я пачырванеў і апусціў вочы. Але аднакласнік усміхаўся. Я зразумеў, што ён не злуе на мяне за той даўні выпадак.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1**
**Маладзечанскага раёна.**

● КАЛЯНДАР

27 ВЕРАСНЯ
**1977.** Першы ток дала Чарнобыльская АЭС.

28 ВЕРАСНЯ
**1962.** Нарадзілася **Алена Анісім**, беларуская мовазнаўца і палітычная дзеячка. Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.



29 ВЕРАСНЯ
**1823.** Нарадзіўся **Уладзіслаў Сыракомля**, беларускі і польскі паэт. Памёр у 1862. Пахаваны ў Вільні.
**1939.** Знішчаны абраз Будслаўскай Маці Божай. Адна з галоўных хрысціянскіх святыняў Беларусі. У гэты дзень атрад чырвонаармейцаў расстраляў цудатворны абраз. Адрэстаўраваны ў 1991.

30 ВЕРАСНЯ
**1892.** Нарадзілася **Зоська Верас**, беларуская пісьменніца і грамадская дзеячка (пам. у 1991 у Вільні)



1 КАСТРЫЧНІКА
**1869.** У Вене выйшлі першыя паштоўкі.

2 КАСТРЫЧНІКА
**1915.** У ходзе Першай сусветнай вайны германская армія заняла Вільню.
**1965.** Нарадзіўся **Зміцер Сідаровіч**, беларускі музыкант, бард, дудар, фалькларыст (пам. у 2014).



3 КАСТРЫЧНІКА
**1906.** Міжнародным сігналам бедства зацверджаны сігнал SOS. Раней дзейнічаў сігнал CQD.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Як справіць вяселле ў беларускім



Фота Сяргея ЛЕСКЕЦА.

Маладыя Ягор Кісялевіч і Аляксандра Сайкоўская.

**Стравы, уборы, традыцыі – гэта свята вылучаецца адметным стылем. Жаніх і нявеста вырашылі зладзіць этнавяселле – і яно дакладна запомніцца надоўга.**

Маладыя пабраліся шлюбам 7 верасня, адзначалі свята на аграсядзібе ў Валожынскім раёне. Пра тое, як рыхтаваліся і што самім спадабалася найбольш, **Ягор Кісялевіч** і **Аляксандра Сайкоўская** распавялі для чытачоў «РГ».

### Падрыхтоўка

Пачалі рыхтавацца да вяселля прыкладна ад канца чэрвеня. Падчас падрыхтоўкі шмат раіліся са старэйшымі сваякамі. А таксама са знаёмымі, якія ладзілі сабе традыцыйныя вяселлі. Звярталіся і да спецыяльнай літаратуры.

Шмат дапамагаў парадамі **Сяргей Выскварка**, якога запрасілі быць маршалкам. Шмат чаго новага пра даўнейшыя вяселлі пачулі ад дзядзькі **Казіка**, музыкі з Дзятлаўскага раёна, з вёскі бабулі Ягора. Ён у маладосці разам са сваёй капэлай іграў на вяселлях па ўсім раёне.

### Ці адгаворвалі сваякі?

Блізкія адразу зразумелі, што белых сукенак не будзе, і па максімуме ўключыліся ў працэс. Падтрымлівалі, распытвалі іншых сваякоў.

Некаторыя абрадавыя моманты абмяркоўвалі даўжэй, бо сваякі маладых паходзяць з розных раёнаў Беларусі. Гэта доўгая падрыхтоўка разам са сваякамі дала больш глыбокае разуменне беларускага традыцыйнага вяселля.

### Якія традыцыі ўвасобілі?

Заручыны – калі пазнаёміліся бацькі Сашы і Ягора. Ладзілі дзявочы вечар, выпраўленне маладога з хаты. Выкуплялі маладую.

Традыцыі тычыліся і самога вясельнага абраду, падчас якога жаніх і нявеста станавіліся на агульны ручнік, і ім перавязвалі рукі другім ручніком. Потым бацькі сустракалі хлебам і соллю. Падчас застолля жанілі гарэлку.

Было дарэнне маладых і дзяленне каравая. Вясельныя маршы ад мінскай капэлы «На Таку». Усё свята суправаджалася традыцыйнай музыкай і танцамі. Для кожнага значнага моманту дзяўчаты спявалі адмысловыя вясельныя песні.

Напрыканцы было завіванне маладой, калі свякроў здымае вясельны вянок і павязвае маладой жаночую хустку. Было і ламанне вясельнай лавы, якую рабіў малады разам з дзедам і на якой праседзелі ўсё вяселле.

### Асаблівыя стравы

Традыцыйны стыль падтрымлівалі і ў стравах, якія былі на вясельным стале.

Так, напрыклад, зразы «з цымусам» – гэта значыць, начыненыя морквай. Альбо карп па-яўрэйску, тушаны ў піве, тут маладым спадабалася назва. Быў дамашні хлеб ад гаспадыні сядзібы, дзе святкавалі.

### Як вы зразумелі, што гэта будучая жонка?

Ягор адказвае:

– Вось калі прыехаў выкупляць, то і зразумеў, з кім звязаўся. (жартуе)

### Што асабліва запомніцца са свята?

– Мне вельмі спадабалася, як нашы сваты, перавязаныя ручнікамі, выносілі каравай, – прыгадвае Аляксандра. – Усё адбывалася на двары. Сваты трымалі яго над галавой, танцавалі і кружыліся, а за імі ішлі музыкі і гралі. Таксама ніколі не забуду чароўны момант, калі мая свякроў павязвала мне хустку, а дзяўчаты спявалі песню «Гарэла сосна». Адчуванні, непараўнальныя ані з чым.

– Зрэшты для мяне таксама асаблівым момантам было завіванне маладой, – кажа Ягор. – Пасля завівання маладая танцавала з кожнай незамужняй вальс, надзяваючы ёй свой вясельны вянок. Каб дзяўчаты замуж выходзілі.

### Як бавіце свой мядовы месяц?

На гэта пытанне маладыя адказалі аднолькава:

– Бавім традыцыйна, як і сто гадоў таму – на працы.

### Якімі марыце бачыць сябе праз 10 год?

Гэтым падзялілася Аляксандра:

– Мой муж галава, а я яго шыя.

Я кручу, куды хачу, ён талеркі мыя.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

## У нядзелю ў Вязынцы адзначаць Багач

МАЛАДЗЕЧНА

Студэнцкае этнаграфічнае таварыства і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашаюць усіх на святкаванне Багача ў Вязынцы.

Сёлета свята адбудзецца 29 верасня, пачатак у 12:30.

У народным календары Багач прымеркаваны да заканчэння збору ўраджаю і да першага пасля лета запальвання дамашняга агмяню – васковай свечкі ў лубцы з жытам, якую ставяць на покуць і захоўваюць там на працягу ўсяго года, каб забяспечыць багацце і шчасце гаспадарам.

Асноўнай дзеяй свята з'яўляецца ссыпанне агульнага Багача, таму гасцей просяць захапіць з сабой па жменьцы зерня.

У праграме свята – дажынкавыя і восеньскія спевы з розных рэгіёнаў, лекцыі, майстар-класы па рамёствах, дзіцячыя гульні, кухня і кірмаш, традыцыйныя танцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гімназісты перамаглі ў рэспубліканскім конкурсе робатаў

МЯДЗЕЛ

Зборная каманда гімназіі-інтэрната Мядзела атрымала перамогу ў катэгорыі Regular ва ўзроставай групе Senior (16-19 гадоў) і заняла ганаровае першае месца.

Склад каманды – **Андрэй Маліноўскі** з дзявятага класа і **Арцём Чаўлытка** з дзявятага. Трэнер – настаўнік інфарматыкі гімназіі-інтэрната Мядзела **Вячаслаў Саўчык**, расказалі ў мясцовым аддзеле адукацыі.

Каманда заваявала права прадстаўляць нашу краіну на заключным міжнародным этапе World Robot Olympiad, які пройдзе з 8 да 10 лістапада 2019 года ў горадзе Д'ёр у Венгрыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Смаргонка атрымала Гран-пры на вакальным конкурсе ў Гродне

СМАРГОНЬ

18 верасня ў Гродне правялі фінал абласнога дабрачыннага конкурсу дзіцячай і моладзевай творчасці «Галасы свету», прысвечанага 75-годдзю ўтварэння Гродзенскай вобласці.

У катэгорыі «эстрадныя спевы» спаборнічалі юныя таленты ва ўзросце ад васьмі да васямнаццаці гадоў.

У конкурсе адзначылася навучэнка Смаргонскай дзіцячай школы мастацтваў **Надзея Шчарбачэвіч**. Яшчэ дзве навучэнкі – **Кіра Чакун** і **Паліна Сярмяжка** – атрымалі дыпломы за ўдзел.

Рыхтавала дзяўчынак настаўніца **Таццяна Елізарава**, паведамляюць у Смаргонскім райвыканкаме.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ордэн Маці атрымалі жанчыны з Астравеччыны

АСТРАВЕЦ

Ордэны Маці ўручылі падчас святочнага мерапрыемства, прымеркаванага да 75-годдзя ўтварэння Гродзенскай вобласці, што прайшло ў Астраўцы, чатыром шматдзетным жанчынам, якія гадуюць пяцёра і шасцёра дзяцей. Адпаведны ўказ **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў 7 жніўня 2019 года.

Старшыня райвыканкама **Ігар Шалудзін** павіншаваў **Алену Давідовіч** з аграгарадка Падольцы, у сям'і якой гадуюцца пяцёра дзяцей; **Таццяну Вайдак** з пасёлка Гудагай, якая нарадзіла і выхоўвае шасцёра дзяцей; **Галіну Вайцяхоўскую** з Гудагая, якая выхоўвае пяцёра дзяцей, і **Аксану Трыбоцкую** з аграгарадка Рытань, якая гадуе шасцёра дзяцей, з гэтай знамянальнай падзеяй, калі ўручаў ім ордэны Маці.

**«Астравецкая праўда».**

## Жыроўку можна атрымаць па электроннай пошце

ВІЛЕЙКА

РУП «Вілейскае ЖКГ» можа накіроўваць паведамленні аб аплаце жыллёва-камунальных паслуг на электронную пошту.

Гэта асабліва зручна для тых уласнікаў жылля, якія жывуць у іншым месцы, ці для грамадзян, якія рэдка зазіраюць у свае паштовыя скрыні, – паведамляюць у ЖКГ.

Для таго, каб атрымаць жыроўку ў электронным выглядзе, уласніку або наймальніку жылля неабходна накіраваць у абаненцкі аддзел РУП «Вілейскае ЖКГ» заяву з указаннем адраса, асабовага рахунка, кантактнага тэлефона і адраса электроннай пошты (e-mail), на які вы хочаце атрымліваць паведамленне.

Адрас ЖКГ: **Вілейка, вул. М.Горкага, 14**

Паслуга – бясплатная.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота забяспечаныя Дзмітрыем СУБАЧАМ.

Злева направа: Канстанцін Кароль, Дзмітры Канюшэўскі, Аляксандр Нёма, Дзмітры Скурат і Павел Кушаль.

# Дзецям падабалася даваць «пяць» праз шкло

## Альпініст з Вілейкі ў вобразе Бэтмана мыў вокны ў дзіцячым хоспісе

ВІЛЕЙКА

**У сярэдзіне верасня прамысловыя альпіністы ў вобразах супергерояў мылі вокны ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры анкалогіі ў Бараўлянах.**

Сярод любімых герояў былі чарапашкі Ніндзя і Чалавек-павук. А касцюм Бэтмана апрануў хлопец з Вілейкі **Дзмітры Субач**. Ён расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» пра гэту дабрачынную акцыю.

– Мы самі прапанавалі такія паслугі цэнтру. А нас арганізаваў мой сябар, таксама прамысловы альпініст **Канстанцін**. Нешта падобнае хацелі зрабіць летась перад Новым годам. Думалі, праз вокны раздаваць дзецям падарункі. Але позна пачалі займацца, і ў выніку нічога не атрымалася, – прыгадвае Дзмітры.

Цяпер жа сваю задуму хлопцы ажыццявілі. У адным з пунктаў пракату ўзялі касцюмы супергерояў. Супрацоўнікі пракату, даведаўшыся пра мэту альпіністаў, далі касцюмы бясплатна. Аднак, па словах Дзімы, з выбарам касцюмаў усё ж былі праблемы:

– Большасць касцюмаў пашытая на стандартных людзей. А мы не зусім стандартныя. Хто ростам – 188, хто – 195. Хацелі ўзяць чатырох чарапашак Ніндзя, але дзве былі ў хімчыстцы. Таксама звярталі ўвагу на тое, каб у касцюмах зручна было злазіць па сценах будынка. Напрыклад, вялікі шлем не падыходзіў.

### Спачатку мылі вокны, а потым зноў забруджвалі

– Мы не толькі мылі вокны. А праз шкло ўсміхаліся дзецям і бацькам, махалі ім. Для нас таксама гэта быў зусім новы досвед, – кажа хлопец.

Па словах Дзімы, большасць гледачоў па той бок шкла ўсміхалася любімым героям. А найбольш спадабалася дзецям даваць альпіністам «пяць» праз шкло.

– Працавалі шэсць гадзін запар. Спачатку мылі вокны, потым забруджвалі, а потым ізноў мылі, – дзеліцца хлопец.

### Са сталяроў – у альпіністы

Прамысловым альпіністам Дзмітры Субач працуе некалькі год. Спачатку скончыў Вілейскі дзяржаўны каледж. Цяпер у Вілейцы бывае ў бацькоў і сяброў.

Пасля каледжа працаваў па атрыманай спецыяльнасці «сталяр-цясляр» на мінскім прадпрыемстве.

– Праз некаторы час на заводзе сказалі, што з маімі псіхічнымі і фізічнымі дадзенымі трэба ісці ў мантажнікі. А ў 2012 годзе пазнаёміўся з прамысловым альпіністам, пагутарыў. І зразумеў, што я таксама хачу гэтаму вучыцца, – прыгадвае хлопец.

За два тыдні спецыяльнасць набыў у Цэнтры МНС у Светлай Рошчы. За гэты час навучылі мала чаму: падымацца і спускацца, ратаваць напарніка. А вось асноўныя фішкі прафесіі спасцігаў ужо падчас працы.


Дзмітры Субач за працай.

### Каму кацяня з дрэва дастаю, каму піяніна падымаю

Сёння Дзмітры Субач жыве і працуе ў Мінску. Мае там ІП. Паслугі прамысловага альпініста ў Вілейцы не асабліва патрэбныя. А ў сталіцы замовы бываюць розныя.

– Хто просіць кацяня з дрэва дастаць, хто – піяніна падняць праз акно на пятнаццаты паверх. Неяк на высокі паверх падымалі вялізны і цяжкі акварыум. Часта размяшчаем на вышыні рэкламную падсветку.

Аднак гэта – бізнес. А акцыю з супергероямі для дзяцей з хоспіса хлопцы зладзілі бясплатна. І гатовыя паўтарыць яшчэ не раз.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Трымайцеся правілаў палявання, каб не прыцягваць непрыемнасці.

# Пачынаецца загоннае паляванне на капытных жывёл

**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету інфармуе, што ад 1 кастрычніка пачынаецца адно з самых папулярных паляванняў у Беларусі – загоннае паляванне на ўсе віды капытных паляўнічых жывёл.**

Можна будзе паляваць на лася, дзіка, казулю, аленя высакароднага, аленя плямістага, лань, муфлона.

Паляванне дазваляюць да 31 снежня.

Дазваляецца паляваць у светлы час сутак. А таксама індывідуальнае паляванне на капытных жывёл з засады і з падыходу на працягу сутак.

Для здабычы лася, аленяў – высакароднага і плямістага, лані і дарослага дзіка дазваляецца ўжываць наразную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш тры тысячы джоўляў, гладкаствольную паляўнічую зброю з патронамі, забяспечанымі кулямі.

Для здабычы казулі і маладняку кабана да двух гадоў – наразную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 джоўляў, гладкаствольную паляўнічую зброю з патронамі, забяспечанымі кулямі або карцеччу.

Дапускаецца выкарыстанне паляўнічых лукаў і арбалетаў, а таксама паляўнічых сабак. Пароды – па рашэнні карыстальніка паляўнічых угоддзяў.

У адпаведнасці з Правіламі, загоннае паляванне на капытных жывёл дазволена ў суботу, нядзелю, у дзяржаўныя святы і святочныя дні, аб’яўленыя непрацоўнымі, а таксама ў асобныя працоўныя дні ў выпадку іх пераносу на выхадныя.

Карыстальнікі паляўнічых угоддзяў маюць права ўсталяваць дадатковыя да вышэйвыкладзеных дзён два дні на тыдзень для правядзення ружэйнага загоннага палявання на паляўнічых жывёл.

Загоннае паляванне праводзіцца абавязкова ў прысутнасці кіраўніка палявання і патрабуе ад ўдзельнікаў самага строгага выканання правілаў бяспекі і ўказанняў кіраўніка.

Практыка паказвае, што большасць няшчасных выпадкаў і парушэнняў на паляванні адбываецца менавіта на калектыўных паляваннях.

Стральба па паляўнічых жывёлах уздоўж стралковай лініі, на шум, шоргат або на незразумелую мэту, самавольны зыход з нумара, выкарыстанне забароненых да ўжывання патронаў – асноўныя прычыны няшчасных выпадкаў пры правядзенні загоннага палявання.

Звяртаем увагу, што незаконнае паляванне (без належнага на тое дазволу, у забароненых месцах, у забаронены час, забароненымі прыладамі, забароненымі спосабамі) цягне адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу ад 510 да 1 275 рублёў.

Могуць таксама канфіскаваць стрэльбу, іншыя прылады палявання і іншыя прадметы, з дапамогай якіх здзейснілі парушэнне.

Прадугледжаная крымінальная адказнасць – штраф, пазбаўленне волі на тэрмін да шасці гадоў з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю) і грамадзянска-прававая адказнасць – пакрыццё шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю.

Незаконнае транспартаванне або раздзелка дзікіх жывёл, якія адносяцца да аб’ектаў палявання, у тым ліку загінулых, або іх частак цягне:

адміністрацыйную адказнасць – штраф ад 510 да 1 275 рублёў;

крымінальную адказнасць – штраф, пазбаўленне волі на тэрмін да чатырох гадоў з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

Прадугледжаная і адміністрацыйная адказнасць за парушэнне правілаў бяспекі палявання ў выглядзе папярэджання або штрафу ў памеры да 15 базавых велічынь – да 382,50.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## У магазінах з’явяцца папяровыя пакеты

**У пакупнікоў пасля гэтага будзе выбар – набыць папяровы пакет, пластыкавы або ўвогуле хадзіць са сваімі шматразовымі.**

Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю вызначыла тэрмін, цягам якога у крамах павінны з’явіцца папяровыя пакеты – цягам двух месяцаў.

23 верасня ў Міністэрстве антыманапольнага рэгулявання адбылася працоўная сустрэча па забеспячэнні спажывецкага рынку пакетамі з паперы, а таксама аднаразовага посуду і сталовых прыбораў з паперы. Гэтыя тавары павінны з’явіцца на прылаўках з улікам нормаў, прадугледжаных пастановай міністэрства ад 2 верасня №72.

На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі аблвыканкамаў, Мінгарвыканкама, Белкаапсаюза, Асацыяцыя розничных сетак, прадпрыемствы-вытворцы і імпарцёры папяровых пакетаў і аднаразовага посуду.

Пакеты з паперы і аднаразовы посуд лічацца таварам, які прадаюць пакупнікам. У адпаведнасці з законам суб’ект гандлю самастойна вызначае асартымент тавараў. Таму калі ў гандлёвага аб’екта няма ў асартыменце пакетаў, то аб’ект не мае абавязку прадаваць папяровыя пакеты.

Выканаўчы дырэктар Асацыяцыі розничных сетак **Наталля Шаблінская** сказала, што пытанне экалогіі тычыцца ўсіх. А гандаль як сацыяльна адказны бізнес будзе выконваць рашэнне міністэрства.

Вытворцы і імпарцёры папяровых пакетаў і аднаразовага посуду выказалі ўпэўненасць у тым, што змогуць забяспечыць патрэбу беларускага рынку. Яны падкрэслілі, што цана на адзінку прадукцыі будзе зніжацца з павелічэннем аб’ёмаў вытворчасці.

Для суб’ектаў гандлю складуць спіс вытворцаў і імпарцёраў папяровых пакетаў і аднаразовага посуду. Спіс можна будзе знайсці на сайтах аблвыканкамаў і Міністэрства антыманапольнага рэгулявання.

Цягам двух месяцаў міністэрства будзе праводзіць маніторынг выканання пастановы №72 без штрафаў. За гэты перыяд гандлёвыя аб’екты мусяць забяспечыць выкананне пастановы.

Невыкананне правілаў гандлю цягне адміністрацыйную адказнасць і штраф у памеры да дзесяці базавых велічынь. Паўторнае парушэнне цягам года можа прыцягнуць штраф ад дзесяці да 30 базавых велічынь.

**Паводле паведамлення Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю.**

## Фестываль ездавога спорту пройдзе на Мядзельшчыне

МЯДЗЕЛ

28 верасня на беразе возера Рудакова пройдзе фестываль здаровага ладу жыцця «МЯДЗЕЛ. ByRun». База адпачынку «Рудакова» адчыніць дзверы для ўсіх фанатаў бегу, прыхільнікаў здаровага ладу жыцця і аматараў сабак.

У рамках фестывалю пройдуць спаборніцтвы па бясснежных дысцыплінах ездавога спорту – «1-ы этап Кубка Беларусі па Драйленду 2019». Госці фестывалю стануць сведкамі відовішчных заездаў і суладнай працы каюраў і пухнатых спартсменаў. Пачнецца мерапрыемства ў 9:00.

**Паводле Мядзельскага райвыканкама.**

## Зубрыцкі вырваў перамогу ў овертайме для дынамаўцаў

МАЛАДЗЕЧНА

«Шахцёр» і «Дынама Маладзечна» правялі матч у нядзелю, 22 верасня. Сустрэча каманд была цэнтральнай у гульнявы дзень.

Калі б салігорскія гульцы выйгралі ў асноўны час, то яны змаглі б пасунуць з першага радка «Нёман», а маладзечанцы склалі гарадзенцам пару. Аднак у асноўны час калектывы завяршылі матч з нічыйным лікам. Таму баталіі перайшлі ў дадатковы час, дзе мацнейшымі аказаліся маладзечанцы. **Лісічкін** знайшоў **Зубрыцкага** ля варот і аддаў дакладную перадачу.

2:3 – маладзечанцы вязуць перамогу дадому. Шайбы за дынамаўцаў забівалі: двойчы **Летаў** і Зубрыцкі.

Лепшым гульцом у складзе «Дынама» стаў Зубрыцкі.

Галоўны трэнер «Дынама-Маладзечна» **Дзмітры Краўчанка:**

– Перамогай заўсёды задаволены, а вынік – не сказаць, што было чакана. Вядома, мы верылі, стараліся. Па ходзе матча бывала складана, сапернік замыкаў нас у зоне, але выстаялі. Стараемся праз гульню наладжваць узаемасувязі і дзейнічаць больш салідна.

**Настасся УТКІНА.**




Фота vk.com / dinamorosenergoatom.

Падчас гульні.

# Астраўчанкі перамаглі на міжнародным чэмпіянаце па баскетболе 3х3

АСТРАВЕЦ

**Жаночая зборная Беларускай АЭС перамагла на міжнародным чэмпіянаце АТ «Канцэрн Расэнергаатам» па баскетболе 3х3 «Аранжавы атам», які прайшоў у расійскім горадзе Нававаронежы.**

У турніры ўдзельнічалі пераможцы рэгіянальных спаборніцтваў – каманды з 11 гарадоў атамнай энергетыкі, у тым ліку і гульцы Беларускай АЭС.

За перамогу на баскетбольнай пляцоўцы спаборнічалі мужчынскія і жаночыя зборныя. Спачатку гульні праходзілі ў групах, а затым каманды, якія занялі ў групе 1-2 месцы, змагаліся за прызавыя месцы.

Беларуская АЭС была прадстаўленая дзвюма камандамі. І калі імёны гульцоў мужчынскай зборнай на слыху астравецкіх аматараў баскетбола – **Уладзімір Яновіч**, **Антон Касцюкоў**, **Віталь Казлякоў** і **Аляксей Чаркас** не раз перамагалі на раённых спаборніцтвах, – то жаночая складалася выключна з энтузіястак, тых, што любяць гульню.

**Сабраліся дзяўчаты літаральна за тыдзень да турніру, а ў якасці спарынг-партнёраў выбралі вучняў гімназіі №1.**

Кожная гульня чэмпіянату праходзіла ва ўпартай барацьбе, і розніца ў ліку рэдка перавышала чатыры ачкі. Мужчынская каманда з пяці сустрэч выйграла тры і спынілася за крок ад паўфіналу, заняўшы ў выніку пятае месца.

Жаночую зборную, у якой гулялі **Алена Кліш**, **Ганна Філатава**, **Дар'я Гурло** і **Марыя Парамонава**, на шляху да перамогі было не спыніць. Дзяўчаты сталі лідарамі ў сваёй групе. Потым згулялі з саперніцамі з Белаяркай АЭС, але астраўчанкі вырвалі пуцёўку ў фінал. У вырашальнай гульні баскетбалісткі сустрэліся з гаспадарамі турніру – зборнай Нававаронежскай АЭС. З лікам 5:2 каманда Бел-АЭС стала чэмпіёнам.

Ганна Філатава – лепшы гулец сярод жанчын і лепшы лёгкі нападаючы, Марыя Парамонава – самы каштоўны гулец турніру (MVP).

**Паводле ostrovets.by.**

## 39-гадовы гулец ФК «Маладзечна» Алег Страхановіч: грошы – гэта не галоўнае

МАЛАДЗЕЧНА

**Алег Страхановіч за кар'еру заваяваў у вышэйшай лізе медалі ўсіх вартасцяў.**

У 2006 годзе быў прызнаны лепшым футбалістам краіны. Правёў 15 матчаў у форме нацыянальнай зборнай. Вось ужо другі год ён бегае за «Маладзечна» ў трэцім дывізіёне, але нават у свае 39 атрымлівае задавальненне ад футбола.

У кастрычніку футбалісту споўніцца 40, але ён усё роўна працягвае гуляць. Тлумачыць гэта любоўю да футбола.

– Калі гляджу на многіх і бачу, што яны ходзяць на нелюбімую работу, разумею, што пры першай жа магчымасці яны пойдуць на іншае месца. Я ж атрымліваю задавальненне, здароўе дазваляе гуляць. Плюс камусьці яшчэ патрэбны. Калі не будзе прапаноў, пайду.

Алег Страхановіч лічыць, што любоў да футбола павінна падмацоўвацца фінансава. Але, па яго словах, ён заўсёды распавядае маладым гульцам, што пра грошы не трэба шмат думаць, а проста гуляць.

– Я ж ужо не ў такім узросце, ёсць дзеці, трэба іх забяспечваць. У «Маладзечна» фінансы для мяне не адыгрываюць галоўнай ролі. Сама ідэя адраджэння маладзечанскага футбола нашмат большая, чым грошы. І справа не ў іх колькасці. Грошы мне плацяць невялікія, але я кожную капейку бераку.

**Паводле by.tribuna.com.**



Фота ostr.by.

Алег Страхановіч (злева) падчас гульні.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Вузкая палоска неўзаранай зямлі паміж двума палеткамі.
4. Агародная культура сямейства парасонавых з саладкаватым аранжавага колеру караняплодам.
6. Непрыемнае пачуццё слабасці, якое наступае звычайна перад стратай прытомнасці, рвотай.
7. Адлегласць ад асновы да вяршыні.
8. У Японіі і Кітаі выкарыстоўвалі гэту расліну для катавання. Яе ўнікальная здольнасць прыносіла ахвяры страшныя мучэнні.
10. Уладар вадаёмаў, які жыве ў вадзе.
11. Яўгенія Янішчыц: «У полымнай журбе, Дзе шлях з вачэй знікае, Я тая, што цябе З усіх вятроў ...».
12. Адсутнасць жадання працаваць.
14. Адшліфаваная паверхня, здольная даваць адбіткі тых прадметаў, якія знаходзяцца перад ёю, а таксама спецыяльна зроблены прадмет з такой паверхняй.
16. Веласіпед.
18. Пазбаўлены раслiннасці, покрыва; голы.
19. Выпраўленне, падрысоўванне фотаздымка або негатыва.
21. Першы гаспадар Ашмянскага княжацкага замка.
22. Напад з мэтай аграблення, які суправаджаецца пагрозамі, гвалтам, забойствам.
23. Спажыванне ежы вечарам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Трубаканічнай формы, якая служыць для ўзмацнення гуку.
3. Вялікае сяло з некаторымі прыкметамі горада.
4. Фізічная або маральная пакута.
5. Нямногія ведаюць, што яны бываюць не толькі на сушы, але і на дне сусветнага акіяна – такіх існуе не менш за сем. У акіяне яны ўзнікаюць у месцах са складаным рэльефам дна, з-за розніцы ў тэмпературы і салёнасці вады.
7. Рэшткі няпоўнага згарання драўніны.
9. Месца рознічнага гандлю спажыўнымі прадуктамі і іншымі таварамі.
12. Бязглуздзіца, бяссэнсіца, недарэчнасць.
13. Упрыгожанне з кветак або галінак, сплеценых у кружок.
14. Заклік, які выражае ў кароткай форме кіруючую ідэю, задачу, патрабаванне.
15. Даль тлумачыў гэта слова, што ўзнікла ў 1590 годзе, як душаслоўе.
17. Найбольш навальніц адбываецца на гэтай частцы планеты.
19. Суддзя ў спартыўных спаборніцтвах.
20. Група навучэнцаў, якія скончылі навучальную ўстанову адначасова.

## Адказы на крыжаванку з №38

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Дазор. 3. Вакно. 7. Жарт. 8. Метафара. 9. Эвалюцыя. 10. Сёрфінг. 11. Жэмчуг. 12. Радня. 15. Жыццё. 16. Мазок. 20. Важак. 21. Джала. 22. Энергія. 26. Ракета. 29. Саргасава.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Выбары. 4. Каталізатар. 5. Крэва. 6. Макіяж. 8. Малако. 9. Эканомія. 13. Разгар. 14. Дзіва. 16. Мігрэнь. 17. Жывапіс. 18. Даёнка. 19. Вуліца. 21. Дабро. 23. Доктар. 24. Магутны. 25. Роля. 27. Камета. 28. Вагацца.

## ● ГАРАСКОП на 27 ВЕРАСНЯ – 3 КАСТРЫЧНІКА



**АВЕН.** У гэтыя дні вам варта засяродзіцца на дамашніх справах. Няхай тое, што сабралася, не ляжыць мёртвым грузам. Пачніце з самых складаных задач, і ўбачыце, наколькі лягчэй справаўляцца з кожнай наступнай.



**ЦЯЛЕЦ.** Цяпер вам варта ўсур'ёз заняцца здароўем. Ідэальна было б прайсці медыцынскі агляд, здаць аналізы. Калі нешта турбуе, адразу звяртайцеся да доктара, цягнуць не варта.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам вельмі складана без размоў і знаёмстваў. Вылучыце час на сустрэчу з сябрамі. Няхай гэта будзе вечар успамінаў, каб вы маглі добра адпачыць і прыгадаць тое, што грэе душу.



**РАК.** У вас цяпер няпросты перыяд, калі ад кожнага рашэння залежыць многае. Але каб прыняць слушнае рашэнне, мала мець два варыянты. Пашукайце хаця б пяць, каб бачыць розныя карціны магчымага. І тады вы зразумееце нашмат лепш, чаго хочаце.



**ЛЕЎ.** Ідэальны час, каб атрымаць асалоду ад поўнага расслаблення. Важныя справы закрытыя, а няважныя могуць пачакаць. Вашай увагі патрабуеце вы самі. Не адмаўляйце сабе ў самым лепшым.



**ДЗЕВА.** Варта вярнуцца да фізічных заняткаў. Як бы ні было складана, нельга забываць пра сябе. Абавязкова вылучайце час на тое, каб паклапаціцца пра сябе любімых.



**ШАЛІ.** Неабходна пільна прааналізаваць свой фінансавы стан. Магчыма, вы знойдзеце не толькі адказ на тое, куды ідуць грошы, але і на тое, як знайсці сродкі на неабходнае.



**СКАРПІЁН.** Добры час, каб пачаць планаваць тое, чым будзеце займацца ў бліжэйшай будучыні. Важна ў першую чаргу ўлічыць, да чаго ляжыць ваша душа. І тады планам будзе лягчэй увасабляцца ў жыццё.



**СТРАЛЕЦ.** Часам варта падумаць пра тое, як нас успрымаюць іншыя людзі. Зрабіце такі агляд на самога сябе вачыма сяброў, калег, сваякоў. Карціна, якую вы ўбачыце, дакладна вас здзівіць.



**КАЗЯРОГ.** Нельга сказаць, што ў гэты перыяд будуць складанасці, але і значных перамен не чакаецца. Часам спакойны прамежак – самае тое, што неабходна, каб далей ісці больш хуткімі тэмпамі.



**ВАДАЛЕЙ.** Прыемныя любоўныя перажыванні – тое, што вам цяпер проста неабходна. Але не трэба чакаць, пакуль гэтыя перажыванні прыйдуць самі. Часам варта іх падштурхнуць.



**РЫБЫ.** У гэты перыяд вам трэба пабыць сам-насам на прыродзе. Знайдзіце час для прагулкі на свежым паветры. Няхай гэта дапаможа вам сабраць думкі і намеціць мэты на бліжэйшы час.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 3 | 6 | | 7 | | 4 |
| 6 | | | 4 | 1 | 8 | | | |
| | 8 | | | | 2 | | 9 | 1 |
| | | | | | 1 | 3 | 6 | 9 |
| | | | 5 | | 6 | 4 | | |
| | | | | 2 | | 5 | | |
| 2 | | | | 8 | | | | 7 |
| | | 8 | | 9 | | | 3 | |
| | | 7 | | 4 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

